# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 49 (1595) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 7 СНЕЖНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.


ДА 95-й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ВАСІЛЁК БЕЛАРУСКІ

Сярод літаратурных крытыкаў выступаюць розныя меркаванні, якія датычаць таго ці іншага пісьменніка. Усе гэтыя меркаванні суб'ектыўныя, бо няма і ніколі не будзе аб'ектыўных спосабаў і крытэрыяў ацэнкі мастацтва. Зыходзячы з такога суб'ектывізму, магу сказаць, што для мяне найвыдатнейшым беларускім паэтам перыяду „Нашай нівы“ быў Максім Багдановіч. Не буду мець прэтэнзіі да таго, хто не раздзяляе майго погляду і з плеяды беларускіх нашаніўскіх пісьменнікаў ставіць на першым месцы нейкага іншага аўтара.

Максім Багдановіч нарадзіўся ў Мінску 9 снежня 1891 года. Калі яму было пяць гадоў, памерла яго маці, пражыўшы ўсяго 27 гадоў. Гэта ад яе ўнаследаваў Максім страшэнную на тыя часы хваробу — туберкулёз, якая і яго звяла заўчасна ў магілу. Зрэшты, таксама на дваццаць сёмым годзе жыцця.

Бацька Багдановіча быў па службе пераведзены з Мінска ў

(Працяг на стар. 4)



На адкрыцці помніка М. Багдановічу ў Мінску ў 1981 г. Група беларускіх пісьменнікаў і мастакоў.

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

Ёсць на зямлі савецкай гэтакі куточак, дзе збягаюцца граніцы трох саюзных рэспублік: **Беларусі, Латвіі і Расіі.** На тэрыторыі БССР знаходзіцца тут Верхнядзвінскі раён і вялікае Асвейскае возера з гарадскім пасёлкам Асвея, у Латвійскай ССР — гэта Зілупінскі раён, а ў межах РСФСР апынуўся тут Сябежскі раён Пскоўскай вобласці. Тры рэспублікі, быццам тры родныя сёстры, падаюць сабе тут рукі над блакітнымі азёрамі, пад шум дрымучага лесу, над рыбаводнымі рэкамі Заходняя Дзвіна, Сіняя, Ужыца, Дрысна і Сар'янка.

Гэтай геаграфічнай асаблівасцю раней я не цікавіўся. І таму, калі мой віцебскі сябар, супрацоўнік газеты „Віцебскі рабочы“, Уладзімір Пятровіч, запрапанаваў мне паездку на Курган дружбы, я ў першую хвіліну не ўцяміў, у чым тут справа, і вачыма ўяўлення ўбачыў вядомы Курган Славы, устаноўлены пад Мінскам.

## КУРГАН ДРУЖБЫ

— Сустрэнемся тады заўтра ў восем гадзін раніцы каля кінатэатра „Мір“. Там я дамовіўся з работнікамі Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Яны абяцалі падвезці нас уласным транспартам. Паездка прадбачваецца на два дні, — паінфармаваў Уладзімір Пятровіч.

Гэтае „заўтра“ абазначала для мяне суботу, 5 ліпеня 1986 года. Канчаўся першы тыдзень майго прабывання на Віцебшчыне, але ўсё яшчэ псіхічна не змог я пераключыцца на маскоўскі час. Вечарам задоўга заседжваўся, а зранку цяжка было прачнуцца. Восьмая гадзіна па маскоўскаму часу абазначала для мяне ўсё яшчэ гадзіну шостую, а каб сабрацца і знайсці ў малавядомым горадзе гэты кінатэатр „Мір“, неабходна было яшчэ дакінуць дзве гадзіны. У пятніцу познім вечарам па беларускім тэлебачанні паказвалі фільм „Сябры“, які я вельмі перажыў. Упершыню ўбачыў я адлюстраванне ў мастацкім творы той горкай, цяжкой, нічым не ўпрыгожанай, галоднай рэчаіснасці, якая выпала на долю беларускага народа ў першым пасляваенным дзесяцігоддзі. Вось адзін са шматлікіх абразкоў, якія паяўляліся ў гэтым фільме: жанчыны ў раскіслым балоце ўручную капаюць бульбу, якую тут жа кал-

(Працяг на стар. 6)

Зрэпарцёрскіх ЗАПІСАК

## СТАРОЕ БЕРАЗОВА — 60 ГАДОЎ ПАЗНЕЙ

Старое Беразова, хата пры хаце, расцягнулася ўздоўж брукаванай вуліцы ад гайнаўскай шасейнай дарогі аж па чыгунку, якая таксама спалучае Бельск Падляшскі з Гайнаўкай. Разам — 155 нумараў і 145 гаспадароў, якія аплачваюць зямельны налог. Такія лічбы назваў мне солтыс **Андрэй Харытанюк.**

Вёска працвітае. Наяўныя доказы дабрабыту відаць тут, як на далоні. Гэта дбайна адноўленыя, ашаляваныя, драўляныя дамы, гэта на гарадскі лад адчыканеныя мураванкі, гэта дарагія, найчасцей жалезныя, прыгожа памаляваныя прыхатнія агароджы, гэта задаволеныя жыццём, модна апранутыя людзі, якіх у святочны дзень сустракаў я на вуліцы, калі яны, прысеўшы на лавачцы, або нейк звычайна спыніўшыся ля плоту, абменьваліся навінкамі са светү ды сваімі меркаваннямі.

Прыемна ўслухацца ў гэтую мілагучную гаворку, якая пратрывала тут больш за тысячу гадоў, захаваўшы ў сваім лексічным і фанетычным багацці найбольш стараславянскіх элементаў. Прамінaлі князі, каралі, цары і прэзідэнты, а ён, люд наш, надалей трываў на сваім спрадвечным месцы, пры сваіх традыцыях і сваёй мове. Толькі драўляную колішнюю саху падмяніў ён жалезным плугам, на месцы валоў паставіў хуткагонкія трактары. Аж 72 гэтыя стальныя коні зараз успамагаюць працу стараберазоўскіх гаспадароў. Ледзь іх солтыс усіх палічыў, хаця і ён сам прыналежыць тут таксама да піянераў механізацыі сельскай гаспадаркі.

— Было гэта, здаецца, у 1973 годзе, — задумаўся солтыс Андрэй Харытанюк. — Тады я купіў сабе першы „Урсус“. Тады таксама трактары купілі: Іван Скепка, Мішка Кірылюк, Язэп Мароз, Хведар Трашчотка і Павел Ялоза...

Яны ў Старым Беразове, значыць, найперш параселі на трактары.

*

Апошні раз пабываў я ў гэтай вёсцы ў нядзелю, 19 кастрычніка. Сяляне, з якімі я сустракаўся, найчасцей абменьваліся тады меркаваннямі аб сустрэчы пра-

(Працяг на стар. 6)

 

# ЧЫЖОЎСКІЯ ЗДАБЫТКІ

У Чыжоўскай гміне ў апошнія гады наглядаецца стабільная сістэма ў выкарыстоўванні зямельных угоддзяў. Больш як 11 тысяч гектараў зямлі, якія тут абсяваюцца, даюць даволі высокія ўраджаі. З аднаго гектара сяляне атрымліваюць у сярэднім па 27 ц збожжа, 200 ц бульбы, 300 ц цукровых буракоў і 62 ц сена. Аднак гэтыя паказчыкі яшчэ недастатковыя для добрых зямель Чыжоўскай гміны.

Добрыя вынікі атрымалі ў апошні час сяляне ў жывёлагадоўлі. Цалкам затрымана змяншэнне свінагадоўлі. У апошнія гады колькасць жывёлы ў гміне бесперапынна павялічваецца. У параўнанні з мінулым годам сёлета на сто га зямельных угоддзяў павялічылася быдла на 0,8%. Паводле чэрвеньскага перапісу ў гміне налічваецца: быдла — 7453 штукі, свіней — 6175 штук, авечак — 5557, курэй — 18020.

Толькі колькасць коней у гміне памяншаецца. Засталося іх цяпер усяго 564, а гэта на 18 прац. менш, чым у мінулым годзе. Цягавай сілай замест коней сталі трактары. Сёлета на 1 трактар прыпадала 16,2 га зямельных угоддзяў. Праўда, многія трактары і іншыя сельскагаспадарчыя машыны ўжо моцна выкарыстаны і патрабуюць рамонту, запасных частак, аднак без іх не было б эфектыўнага гаспадарання.

У апошнія гады ў гміне значна палепшалі дарогі, у тым ліку і даязныя дарогі да палёў. Закончаны працы на лініі Збуч-Клейнікі і ў саміх Клейніках, а на лініі Новаберазова-Курашава-Камень работы часова спынены. У выніку доўгіх намаганняў жыхароў Падрэчан і Слівова, нарэшце наладжаны дарогі, спалучаючыя гэтыя вёскі з сядзібай гміны.

У многіх выпадках па ініцыятыве пярвічных партыйных арганізацый, пры падтрымцы салэцкіх радаў і іншых арганізацый, якія дзейнічаюць у гэтых вёсках, праводзіліся рамонты, перабудоўваліся або будаваліся вуліцы, наладжваліся палявыя дарогі. Прыкладам могуць быць тут вёскі Клейнікі, Шастакова і Койлы.

Працягваюцца меліярацыйныя работы ў Койлах, Курашаве, Лядах, Ляневе і Камені. Заканчэнне іх прадугледжана ў будучым годзе.

Да немалых дасягненняў гміны трэба залічыць таксама правядзенне водаправодаў у Моры Збучы і Чыжах. Толькі ў Клейніках пакуль што не могуць знайсці выканаўцы.

У гміне зроблена шмат грамадскай працай. Напрыклад, у Койлах на аўтобусным прыпынку пабудавалі пачакальню, у Збучы абсталявалі фатаграфічную працоўню, выкарыстоўваючы памяшканне над клубам. Сёлета пасаджана ў гміне 1500 дрэўцаў і 3000 дэкарацыйных кустоў.

Хаця Чыжоўская гміна даволі заможная, хаця не навінка тут тэлевізар ці легкавая машына, не гаворачы ўжо пра сельскагаспадарчую тэхніку, моладзь усё ж (хаця не так моцна, як у іншых гмінах), але адыходзіць у горад. Старыя бацькі, не маючы наследнікаў, здаюць дзяржаве зямлю за пенсію. І так, сёння ў гміне ўжо 477 га зямлі знаходзіцца ў дзяржаўным фондзе.

Аб усіх вышэй закранутых справах гаварылася 26 кастрычніка г.г. на справаздачна-выбарнай канферэнцыі ПАРП у Чыжах. Гаварылася таксама і аб неабходнасці аднаўлення школьнага транспарту і аб закантрактаванай бульбе, якую не прымаюць ГСы, і аб неабходнасці пабудовы ў гэтым рэгіёне фабрыкі па перапрацоўцы гародніны.

**Міхась Хмялеўскі**

---

# БЕЛАРУСІКІ

**1975**

Malcew Aleksander, Rossija i Biełorussija w sieriedinie XVII wieka. Moskwa 1974. Rec.: Sielicki Franciszek, „Przegląd Humanistyczny", 1975, nr 10, s. 170—174.

Manajenkowa A. F., Leksika russkich goworow Biełorussii. Mińsk 1973. Rec.: Maryniakowa Irena, „Slavia Orientalis". 1975, nr 2, s. 241—242.

Prokoszyna Jekatierina: Oczerk swobodomyslija i ateizma w Biełorussii w XIX w. Mińsk 1973. Rec.: Skurjat Krystyna, „Euhemer", 1975, nr 1, s. 144—146.

Ułaszczik Nikołaj: Oczerki po archieografii i istocznikowiedieniju istorii Biełorussii fieodalnogo pierioda. Moskwa 1973. Rec.: Kosman Marceli, „Archeion", t. 62, 1975, s. 257—260.

**Р.С.**

---

# ТАК БЫВАЕ...

**Выпадак у банку**

Бадай той з пекла не выйшаў, хто грошы выдумаў. За грошы праўда і няпраўда, за грошы — радасць і бяда. Непераможная іх сіла. У пагоні за грашыма людзі едуць на заробкі, найбольш у ЗША, і там выконваюць найбруднейшую і найцяжэйшую работу, часта паніжаючую годнасць чалавека. Ну, і што з таго, што ў яго дыплом вышэйшай школы ў кішэні, а ён замятае вуліцу. Будуць жа долары! А за іх жа ў краіне можна купіць усё. Можна (хаця нельга!) прадаць іх з вялікай карысцю, а можна і палажыць у банк, і гэта таксама дасць цалкам немалы працэнт.

Адзін малады чалавек, назавем яго Мітрафан, зарабіў за мяжой крыху грошай і вырашыў палажыць 700 долараў у банк. Было ў банку шмат людзей, нават цыганка там была. Адны прыйшлі ўзяць са свайго рахунку грошы, другія — палажыць. Мітрафан быў моцна ўзбуджаны, што яго долары будуць ляжаць у банку. Гэта ж карысць якая! І непакой аднačасова. Не мог ён спакойна стаяць, яго ўвесь час карціла, каб глянуць на свой скарб у кашальку, каб дакрануцца да яго рукою.

Адкрылася акенца ў банку. Мітрафан быў першы. Пачаў ён шукаць у сваёй сумцы кашалёк з доларамі і знайсці не можа. Рука нервозна лётае па сумцы, а грошай як не было, так няма. Пабляднӗў наш Мітрафан, і заняло яму мову, толькі прашаптаў ненармальным голасам: „Укралі!", захістаўся і ўпаў.

Людзі падхапілі яго і выцягнулі на свежае паветра. Непрытомнага, палажылі на зямлю і выклікалі хуткую дапамогу. Лекар прыехаў адразу і ачуціў Мітрафана. Толькі ўстаў Мітрафан на ногі, як зноў у роспачы крыкнуў: „Абакралі!"

Людзі кажуць: „Чалавеча зразумей, ты ж стаяў разам з намі і мы ж бы заўважылі злодзея! Супакойся! Давай будзем разам з лекарам шукаць грошай!" Мітрафан згадзіўся. Долары знайшлі адразу ў спецыяльнай тайнай кішэні, якую ён сабе нядаўна змайстраваў. На жаль, не прывык яшчэ да яе.

Мітрафан аж падскочыў ад такой нечаканасці, ды зноў захістаўся і амаль не зваліўся з ног: тады — ад бяды, а цяпер — ад раптоўнага шчасця. Лекар прымусіў свайго пацыента прыняць нейкі супакойваючы лек, і праз некалькі хвілін Мітрафан пайшоў і здаў свае няшчасныя долары ў банк.

А дзеялася гэта некалькі месяцаў таму назад на вул. Варшаўскай 1 у доларавым банку.

**Міхась Сваяк**

---

вай выключнай. Здаецца гэта проста неверагодным, калі ўзяць пад увагу, што, жывучы ў русіфікаванай сям'і, не маючы кантакту з роднай зямлёй, не сутыкаючыся з беларускай адукацыяй, мог малады Максім, як бы наперакор людзям і лёсу, узбудзіць у сабе не толькі беларускую свядомасць, але знайсці сілу апанаваць беларускую мову настолькі, каб стаць адным з вядучых беларускіх паэтаў і першым беларускім крытыкам перыяду „Нашай нівы".

У Ніжнім Ноўгарадзе жылі дзве сястры бацькі Багдановіча. Асабліва адна з іх, Магдаліна, глыбока паважала ўсё беларускае і народнае. „Сестра Магдалина, — піша бацька паэта, — носительница традиций нашего рода, жила и вела свою семью так, как это делали её мать и бабушка. Она соблюдала и чтила все наши обычаи и обряды. Справляла дяды, коляды, масленицу и великодни и прочее так, как это делали предки".

Беларуская атмасфера ў дамах цётак, несумненна, уплывала на свядомасць Максіма і вяла яго ў бок далёкага роднага краю. Адна з цётак выпісала Максіму „Нішу ніву", якая адыграла ў крышталізацыі яго нацыянальнай свядомасці ролю бадай найбольшую. Нельга недаацэньваць уплыву і бацькі Багдановіча, які быў аўтарам вельмі істотнай беларусазнаўчай кнігі, прысвечанай даследаванням беларускага фальклору. Калі шукаем фактараў, якія спрыялі развіццю беларускай свядомасці ў Багдановіча, дык апрача ўжо названых, трэба назваць самастойнае вывучэнне шматлікіх зборнікаў беларускага фальклору, навуковай літаратуры, прысвечанай Беларусі, і кантакты з тагачаснымі беларускімі нашаніўскімі дзеячамі, сярод якіх найбольшае значэнне мелі кантакты з братамі Луцкевічамі і В. Ластоўскім, што ў 1910 годзе выпусціў у свет першую ў гісторыі напісаную па-беларуску кароткую гісторыю Беларусі.

У часе знаходжання ў Яраслаўскім ліцэі Багдановіч быў ужо сталым паэтам, выдатным крытыкам і рашучым беларусам. У верасні 1916 года Багдановіч, нягледзячы на тое, што вядомы рускі вучоны-мовазнавец Шахматаў запрапанаваў яму асістэнтуру ў Пецярбурзе, едзе на Беларусь, у Мінск, дзе намерваецца жыць, працаваць і тварыць. Трэба памятаць, што быў гэта другі год першай сусветнай вайны, якая ўжо часткова спустошыла беларускую зямлю. Прыехаўшы ў Мінск, Багдановіч працаваў у камітэце дапамогі ахвярам вайны. Яго жыццё характарызавалася выключнай сціпласцю. Прыкладам можа быць тое, што, нягледзячы на вельмі цяжкі стан здароўя, ён не з'ядаў свайго пайка цукру, адкладваў яго з мэтай перадачы ў дзіцячыя прытулкі. Тым часам стан здароўя паэта ўсё пагаршаецца. У лютым 1917 годзе Багдановіч едзе на лячэнне ў Ялту. У выніку снежных заносаў, на глухой станцыі пад Гомелем цягнік, якім ехаў Багдановіч, стаяў тры дні. Багдановіч галадаў, паглыбляючы і так безнадзейны стан здароўя. Калі ўрэшце даехаў да Ялты, быў страшэнна стомлены. Вось як апісвае гэтыя трагічныя дні ў жыцці сына бацька Багдановіча: „Скончался он 12 мая 1917 г., но я известие об этом получил на четвертый день после его смерти. Он не дал хозяйке моего адреса, не желая меня тревожить. После его смерти она нашла мой ярославский адрес и телеграфировала по этому адресу, а пока пришла телеграмма из Ярославля, был уже четвертый день. Я тотчас на автомобиле становился в Ялту. Но он был уже похоронен. Хозяйка Мария Цемко (ул. Николаевская, нр 8) мне рассказала следующее: После долгих поисков квартиры, пришел он, измученный и усталый. Когда она показала ему комнату, он сел на стул, заявив: никуда больше я не пойду. Комната была довольно обширная, светлая, с видом на море, на втором этаже, сзади дома, с отдельной лесницей и совершенно изолированная, глухая: хоть кричи, хоть стучи — никто не слышит (хозяйка жила внизу с подхода) и помощи не подаст. Самое подходящее, чтоб умирать в полном одиночестве. В гигиеническом отношении выбор был для слабогрудого совершенно не удачен: место низкое, море близко. С питанием он устроился очень весьма плохо: кормился в какой-то столовой или

(Працяг на стар. 6)



 

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ -ВАСІЛЁК БЕЛАРУСКІ

(Працяг са стар. 5)

пробовлялся сухоедением, сам себе закупал провизию. Выходил все время, слёг за неделю до смерти, когда пошла кровь горлом, кровь или текла струёй, или выкашливалась крупными сгустками. Была приглашена сестра милосердия, которая за ним ходила, видимо, только днём, ибо он умер совершенно один ночью. За несколько дней до смерти попросил купить ему земляники, как бы на прощание с матерью-природой, её весенним даром. Попробовал — и больше ничего не ел. Похоронили его на ялтанском кладбище...

...В главах поставлен небольшой белый крест с надписью на костяной табличке его имени (студент Максим Адамович Богданович)...

...Место выбрано чрезвычайно неудачно: ливни и потоки с крутого склона кладбища легко могли размыть могилу. Я нанял сторожа, чтобы могилу укрепить и привести в порядок, оставил денег хозяйке, чтобы посадить кипарисы и розовый куст...

...Через несколько дней я уехал из Крыма".

Вось так выглядаў апошні акт Максімавай драмы. Паэт, які ўсё жыццё імкнуўся да людзей і асабліва беларусаў, памёр у адзіноце: без бацькі, без сваіх і нават без чужых. Памёр далёка ад любімай Беларусі. Багдановіч ведаў, што памрэ заўчасна. Гэтую тэму кранаў у многіх сваіх вершах. Вярнуўся да яе і ў Ялце ў як жа сумна-радасным чатырохрадкоўі. Гаварыў у ім, што памірае „ў сіняй краіне". Аднак не скардзіўся, наадварот, падкрэсліваў горда: „Я не самотны, я кнігу маю, з друкарні пана Марціна Кухты". Меў на ўвазе свой зборнік „Вянок", які памагаў яму горда па-беларуску жыць і годна па-чалавечы паміраць. Гадоў восем таму назад беларускі паэт Алесь Бачыла гаварыў мне, што беларускія пісьменнікі павязуць на магілу Багдановіча насенне яго любімых кветак — васількоў. Ці прыняліся яны на магіле паэта, не ведаю. У 1981 годзе перад тэатрам опоры і балету ў Мінску быў адкрыты помнік М. Багдановічу. У правай руцэ трымае вялікі паэт сціплыя беларускія кветкі-васількі.

А. Баршчэўскі

P.S. Дарагія чытачы, у сваім артыкуле крануў я выключна некаторыя біяграфічныя моманты з жыцця Багдановіча. Далейшыя два артыкулы аб яго творчасці і літаратурнай публіцыстыцы — мой доўг перад вамі.

А. Б.



За Мікалаем Трашчоткам, якога бачым на гэтым здымку, стаіць мураванка яго дваюраднага брата. На гэтым месцы ў Старым Беразове знаходзілася драўляная хата Івана Трашчоткі, у якой 5 снежня 1926 года быў склікаены павятовы з'езд Грамады.

# СТАРОЕ БЕРАЗОВА -60 ГАДОЎ ПАЗНЕЙ

— Ага, вам хацелася б ведаць пра гэты грамадаўскі з'езд, — здагадаўся Андрэй Харытанюк, якога не было яшчэ на свеце, калі мясцовыя дзеячы **Беларускай сялянска-рабочай грамады** рашылі склікаць 5 снежня 1926 года менавіта ў Старым Беразове, у хаце **Івана Трашчоткі,** актыўнага дзеяча БСРГ, павятовы з'езд гэтай стотысячнай грамадска-палітычнай беларускай арганізацыі, якая пад кіраўніцтвам **Браніслава Тарашкевіча** на працягу кароткага часу заваявала аграмадны аўтарытэт сярод беларусаў у Польшчы.

Тадышнія польскія ўлады, устрывожаныя хуткім ростам уплываў БССР, рашылі наладзіць правакацыйны, крывавы разгром старабеpазоўскага з'езда. Вось фрагменты праўдзівай тэлеграмы, якую нейкі Раман накіраваў 6 жніўня 1926 года тадышняму паслу і старшыні Цэнтральнага камітэта БСРГ Браніславу Тарашкевічу:

*„У нядзелю, пятага, праходзіў павятовы з'езд Грамады ў вёсцы Старое Беразова, Арлянскай гміны Бельскага павета. Членаў Грамады, якія кіраваліся на з'езд, тайная і мундзіровая паліцыя ў Старое Беразова не прапускала, арыштоўвала. Такім чынам, на з'езд змагло прабіцца толькі 120 чалавек. Вёска Старое Беразова была акружана атрадамі пешай і коннай паліцыі ў колькасці ста чалавек, з сямю кулямётамі. У час працы з'езда банда паліцэйскіх тайнякоў у колькасці 15 чалавек пачала пагром хаты, ламала дзверы і вокны (...). Паліцыя ўварвалася ў хату і пачала біць усіх членаў з'езда прыкладамі і шаблямі. Паліцэйскія трымалі за рукі паслоў(...). Паслы Мятла і Валошын паранены. Апрача гэтага паранена 50 чалавек (...)."*

Быў гэта першы грозны сігнал, што ўлады рыхтуюцца да поўнага разгрому Грамады. Праз паўтара месяца, ноччу з 14 на 15 студзеня, значыць, на праваслаўны новы 1927 год, паліцыя арыштавала ўсіх беларускіх паслоў і больш за 400 чалавек кіраўнічага актыву Грамады. 22 сакавіка 1927 года дзейнасць БСРГ была афіцыйна забаронена.

*

Хацелася мне адшукаць кагосьці з сям'і гэтага Івана Трашчоткі, які адважыўся адступіць сваю хату на грамадаўскі з'езд. Мяне накіравалі да Мікалая Трашчоткі.

(Працяг са стар. 1)

вадыроў дзвюх звышдзяржаў у Рэйк'явіку. Сімпатыя ў гэтых меркаваннях засяроджвалася, вядома, на савецкім баку.

Старое Беразова ніколі не цуралася ад палітыкі. Зараз у гэтай вёсцы згодна дзейнічаюць дзве палітычныя партыі, значыць — пярвічная арганізацыя Польскай аб'яднанай рабочай партыі і гурток Аб'яднанага людовага староннiцтва, а таксама і дзве маладзёжныя арганізацыі: Саюз сацыялістычнай польскай моладзі і Саюз вясковай моладзі. Здараецца і так, як у сям'і Яна Леваня Трашчоткаў, што бацька прыналежыць да ЗСЛ, а сын праяўляе актыўную дзейнасць у ПАРП.

Для поўнага грамадскага краявіду гэтай вёскі дакінуць трэба было б яшчэ гурток вясковых гаспадынь і тутэйшых гарцэраў.

*

— Дзе тут была хата Івана Трашчоткі? — пытаў я ў солтыса.

(Працяг са стар. 1)

# КУРГАН ДРУЖБЫ

гас вымушаны адпраўляць на здачу. Адна з жанчын, бойкая маладзіца, маці двух сіротак, наўмысна частку бульбінак пакідае ў зямлі, каб ноччу, пад святло месяца і зорак адшукаць гэты скарб і зварыць бульбу сваім галодным дзеткам, ды запасціся крыху на зіму. Гэтае „махлярства" выяўляе малады старшыня, даўнейшы афіцэр-франтавік. Яго калгас не спраўляецца з планам паставак і ён па ўсіх правілах закону мог бы гэтай жанчыне прыпісаць параграф аб гаспадарчым сабатажы. Ён, аднак, гэтага не робіць і сам пападае ў сур'ёзны канфлікт з раённымі і абласнымі начальнікамі. Гоняць яго з работы. Адначасова яго франтавы сябар, таксама былы афіцэр, шляхам жаніцьбы ўвайшоў у сям'ю аднаго вельмі ж важнага рэспубліканскага чыноўніка і, крадучы чужыя навуковыя знаходкі, умела будуе навокал сябе атмасферу „свяціла" навукі, узначальвае нейкі важны навукова-даследчы інстытут...

Пад уражаннем гэтага фільма я доўга не мог заснуць. На шчасце, на месца збору ўдалося мне дабрацца ва ўказаны час. Працаўнікі музея пагрузілі нейкія свае стэнды са здымкамі, і мы рушылі ў дарогу.

— На Курган вязем мы фотавыстаўку, якая адлюстроўвае помнікі дойлідства, геройства і прыгажосці прыроды нашай Віцебшчыны, — паінфармаваў мяне адзін малады чалавек з наборам фотаапаратаў на грудзях. Пасля выявілася, што гэта здольны фатограф з душою мастака, па прозвішчы М. Шмерлінг. Фотавыстаўка, якую яны везлі на Курган, была ў асноўным яго работы. Ён улюбёны ў беларускую старыну і з любатою фатаграфуе яе матэрыяльныя праяўленні.

— Адзін раз давялося мне цэлы дзень прасядзець, каб дачакацца адпаведнага моманту для сфатаграфавання вось гэтага Сафійскага сабора ў Полацку, — сказаў ён мне, калі мы праязджалі побач гэтай „Сафійкі", як славуты і дбайна адрамантаваны сярэдневяковы Полацкі манастыр называюць між сабой працаўнікі віцебскага музея. Для іх не мае ён аніякіх таямніц. У ліпеньскім сонцы яго купалы зіхацелі пазалотай. Я ахвотна падстаўляў вуха, слухаючы іх расказы.

Полацк аказаўся ў палавіне дарогі да Кургана дружбы. Чакала нас яшчэ дзве гадзіны язды. Старэнькі, выслужаны аўтобус бразгатаў і трос неміласэрна. Нягледзячы на гэта, я амаль не адрываў вачэй ад вокнаў. Хацелася хаця б на хаду паглядзець на праявы жыцця ў тутэйшых калгасных і саўгасных вёсках, якія зрэдку траплялiся нам па дарозе. Архітэктура гэтых вёсак ды іх сялібы адрозніваюцца ад таго, да чаго мы прывыклі на Беласточчыне і наогул у Польшчы. Жылыя дамы, незалежна ад іх велічыні, найчасцей „зрубленыя" з драўляных кругляков, з вуглямі „на закладку". Вокны і дзверы прыгожа

— Я — сын Хведара, а Іван Трашчотка — гэта мой дзядзька, — растлумачыў мне дзядзька Мікалай. Яму зараз 63 гады. Значыць тады, калі ў хаце яго дзядзькі праходзіў гэты з'езд, бегаў ён неспаўна 4-гадовым дзіцём.

— А мне здаецца, — гаворыць селянін, — што я памятаю гэты час. Хата была драўляная але вялікая, нейкіх 8 метраў шырыні і 12 даўжыні. Яна згарэла ў вайну, у чэрвені 1941 года. Тады немцы спалілі датла ўсю нашу вёску. Асталося ледзь некалькі будынкаў. Так яны помсцілі за тое, што чырвонаармейцы, якія тут прабіваліся ў Белавежскую пушчу, парадачна іх пратрапалі.

На месцы даўнейшай хаты Івана Трашчоткі стаіць цяпер шыкоўная мураванка аднаго з яго пляменнікаў. Унутры — поўнае сучаснае абсталяванне. З водаправодам і ванным пакойчыкам.

*

Наведаў я яшчэ аднаго з тутэйшых Трашчоткаў, а менавіта маладога гаспадара **Леваня Трашчотку**, які разам з бацькам Іванам пасяліўся ў двухпавярховым асабняку з таго канца вёскі, дзе чыгунка. Гэтыя Трашчоткі лічацца ў вёсцы самымі лепшымі гаспадарамі. Абзавяліся нават ужо ўласным камбайнам „Бізон".

Бацька — радны ВРН, дзеяч ЗСЛ — кудысьці паехаў, і гутарыў я з сынам, які перш за ўсё звяртаў увагу на недахопы грамадскага жыцця ў Старым Беразове.

— Вёска вялікая, багатая, — кажа. — І моладзі тут многа, бо нанач і на святы з'язджаюцца маладыя людзі з гарадоў. Але парадачнага дома культуры, на жаль, мы ў Старым Беразове не маем. Няма дзе сабрацца, пагуляць ці наладзіць звычайны сход. Ужо другі год зацягваецца перабудова вясковай вуліцы, хаця жыхары вёскі зрабілі ўсё, што ад іх па гэтай справе патрабавалі ў гміне...



**У шафах Анны Трашчоткі захаваліся яшчэ колішнія ручнікі і саяны з даматканага палатна.**

Ад солтыса я даведаўся, што на вясковым конце Старога Беразова да гэтага часу накапілася 1.200.000 зл. грамадскага фонду. Мала гэтага на вялікі пачын але каб дапамагчы гміне, дык сума даволі заманлівая.

А пакуль што мясцовую культурна-асветную дзейнасць падмяняюць дзве польскія і адна савецкая тэлевізійныя праграмы. Хаця, калі Грыша Мароз даведаўся пра канцэрт калектыву „Дубіны", дык паехаў аж у Беласток, каб паслухаць песні, мілыя сэрцу. Гэта толькі лішні раз пацвярджае старую праўду: чалавеку для жыцця патрэбны не толькі хлеб з маслам, але неабходная яму таксама духоўная страва.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do artykułu „Nudne Widowo" („Niwa" z dn. 12.X.86 r.) uprzejmie informujemy, że z powodu braku kandydata na gospodarza klubu z dniem 28 lutego zmuszeni zostaliśmy do zawieszenia działalności klubu PiK pozostawiając w lokalu tym meble i sprzęt. Robiliśmy wspólnie z Urzędem Gminy starania w kierunku uruchomienia klubu, niestety we wsi Widowo nikt nie wyraził zgody na podjęcie pracy w klubie jak też z miasta Bielska Podlaskiego żaden z potencjalnych kandydatów nie chce dojeżdżać do wsi Widowo.

Uruchomienie kiosku nie jest możliwe z następujących przyczyn:

1. Nie mamy kiosku, który moglibyśmy ustawić tam i do końca bieżącego roku i w I półroczu 1987 roku wszystkie kioski, jakie otrzymamy będą przeznaczone na wymianę kiosków wymagających kapitalnego remontu lub likwidację ze względu na stan techniczny.

2. Uruchomienie kiosku ze względów ekonomicznych również nie jest możliwe. Aby kiosk był rentowny musi osiągać obroty w granicach 300—400 tys. zł miesięcznie, co w warunkach wsi Widowo jest nierealne, bowiem klub po wielu staraniach uzyskiwał obroty zaledwie 100—150 tys. miesięcznie. Wieś jest mała, do 200 mieszkańców, ponadto jest tam kiosk GS „SCh", który posiada szeroki asortyment artykułów spożywczych w tym też podstawowe, przemysłowe. Chociaż nie rozprowadza prasy, ale prasę mieszkańcy Widowa mogą zaprenumerować u listonosza. Bilety MPK mogą zakupić w mieście, do którego jest dobry dojazd

3. Obawiamy się ponadto, że do kiosku również nie będzie kandydata, ponieważ w kiosku praca jest podobna jak w klubie. Przy tym kiosk powinien być czynny codziennie od 6.00—17.00 bez prawa do wolnego dnia w tygodniu, a klub był czynny 2 godz. z rana od 7.00—9.00 i po południu od 17.00—22.00 z prawem do wolnego dnia w tygodniu.

Przykro nam, że pisze właśnie Andrzej Gawryluk, który sam nie skorzystał z propozycji i nie podjął pracy w klubie PiK, chociaż zdaniem Oddziału i Urzędu Gminy był on jedynym potencjalnym kandydatem na gospodarza klubu.

Reasumując powyższe sprawa reaktywowania klubu PiK w Widowie jest otwarta i czekamy na kandydata, natomiast nie widzimy możliwości uruchomienia kiosku.

RSW „Prasa-Książka-Ruch"
Oddział w Bielsku Podlaskim
Z-ca Dyrektora
**Janina Siergiejczyk**

ўдэкараваны. Здараюцца ўжо і цагляныя дамы падобнага тыпу, пераважна з белай цэглы. За жылым домам, як правіла, знаходзіцца невялічкі хлеўчык, а побач — нейкая дравутня або „баня". І гэта ўсё. Яшчэ крыху агародчыка, некалькі фруктовых дрэў — і гэта будзе тыповы вясковы жыццёвы ачаг на Віцебшчыне.

Я заўважыў, што гэтыя вясковыя краявіды цікавілі толькі мяне. Мае савецкія сябры тут нарадзіліся і выраслі ды здаецца ім, што інакш і быць не можа. Нават цяпер так будуюць. Па дарозе я бачыў гэта. Роўненькія бярвенні елкі, аголеныя з кары і прыцясаныя з аднаго толькі боку ўмелымі рукамі тутэйшых майстроў, кладуць „у зруб" на вугальную вязку. У гэтакім доміку зімою цёпла, а летам халаднавата.

Спыніліся мы ў лесе. Мяне ўразіла мноства чарніц, якіх ніхто не кранаў, бо нават і следу не было, каб нехта сюды за імі прыходзіў. Нарваўшы цэлыя прыгаршні гэтых ягад, я з ветлівасцю джэнтэльмена пачаў частаваць імі ў першую чаргу нашых дам. На маё здзіўленне, яны або зусім адмаўляліся ад майго пачастунку або бралі ягады толькі для віду. Урэшце нейкі барадаты мастак (ён спадарожнічаў сваёй жонцы) выясніў справу адкрыта:

— У гэтым годзе ў нас не рэкамендуецца збіраць і есці гэтыя ягады, ды ўсялякія іншыя плады лесу. Гэта ў сувязі з няшчасцем у Чарнобылі.

Рантам і мне адхацелася салодкакіслых чарніц. Я ўспомніў гэтых дзяцей ды іх мам, якіх я бачыў у прафілакторыі Віцебскага вытворчага аб'яднання „Даламіт". Віцебшчыну, на шчасце, у асноўным абмінула шкодная хмара, якая неслася з поўдня Беларусі. І таму няраз даводзілася мне наглядаць тут шматлікія праявы братняй дружбы ў адносінах да пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі. Усе свае дамы адпачынку, санаторыі і прафілакторыі адвяла Віцебшчына гэтым людзям.

Урэшце дабраліся мы на **Курган дружбы.** Пасярэдзіне прасторнай лясной паляны, на невысокім зялёным узгорку рос стройны дуб. Гэта і быў **Курган дружбы.** Адна з трох табліц апавяшчала на беларускай мове:

**„Курган дружбы, збудаваны на стыку граніц трох братніх рэспублік у гонар баявой дружбы рускіх, беларускіх і латышскіх партызан, замацаванай кроўю ў гады Вялікай Айчыннай вайны.**

**Адкрыты 3 ліпеня 1959 года".**

Я з маімі віцебскімі сябрамі быў там на 27-гадоў пазней, 5 і 6 ліпеня 1986 года. Каго і што ўвекавечвае гэты Курган? Хто і як яго заснаваў? На гэтыя пытанні пастараюся адказаць ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**Вось ён, Курган дружбы народаў Беларусі, Латвіі і Расіі. Кожны год у першую нядзелю ліпеня адбываецца тут шматлюдны мітынг, прысвечаны дружбе і міру.**

 

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЁЛАЯ ЗАБАВА

Каля поўначы маладажоны ў акружэнні сватоў, дружак і ўсіх маладых вясельных гасцей уставалі з-за сталоў і кіраваліся на танцы, называлася гэта ісці „на забаву", або „ісці на музыкі". Забава, як правіла, адбывалася ў доме суседа. Не заўсёды вясельныя госці маглі беспарашкодна выйсці з хаты. Вельмі часта „запарожнікі" барыкадавалі дзверы і адкрывалі праход толькі тады, калі вясельнікі давалі выкуп. Напрыклад, у вёсцы Махнатае хлопцы-„запарожнікі" знімалі з завесаў дзверы, ставілі іх упоперак, прыносілі пусты гаршчок, стукалі ім у стол і крычалі папольску:

Proszę wódkie stawić,
Bo jak nie, to z armat
Będziem walić.

Атрымаўшы выкуп, „запарожнікі" разам з вясельнікамі кіраваліся на забаву, дзе маладая мела абавязак танцаваць з усімі кавалерамі, а малады з усімі прысутнымі дзяўчатамі. Такая практыка мела спрыяць хуткаму выхаду замуж усіх дзяўчат і жаніцьбе ўсіх хлопцаў.

Танцы прадаўжаліся некалькі гадзін. Пасля забавы вясельныя госці вярталіся на світанні ў хату і зноў сядалі за сталы. Выў гэта апошні акт вясельнага тэатру ў хаце маладой, і маладыя рыхтаваліся да выезду ў дом маладога. Зразумела, што паяўляўся ў такой сітуацыі настрой поўнай трывогі і смутку. Датычыўся ён перад усім маладой і яе бацькоў. Настрой гэты ўдзяляўся і ўсім вясельнікам, якія інтанавалі сумныя песні. Дамінаваў у іх матыў расстання. Прывядзем тут характэрны тэкст з вёскі Крывяцічы. У яго змесце паяўляецца рытуальны элемент, звязаны з ключамі, якія мелі адкрываць дарогу да выхаду замуж усім сяброўкам маладой. Спецыфіка гэтай песні праяўляецца ў тым, што выступаюць у ёй элементы таямнічасці, дэтэрмінацыі, свайго роду замовы-заклёну. Несумненна, тэкст гэты дайшоў да нас з часоў глыбокага мінулага, калі містычнасць была неаддзельнай часткай многіх народных рытуалаў і калі слову прыпісвалася здольнасць магічнага ўздзеяння на жыццё:

Ужэ свет світае,
Зоры займае,
А брат сэстронкі
Ключоў пытае:
— Ой, сэстро, сэстронко,
Дэ ключы дэла?
— Кінула ключы,
З коморы ідучы,
Кінула на мора,
Кінула на горы,
Кінула на рэкі,
Кінула навекі,
Кінула высоко,
Пойду далёко.

Вельмі цікавы тэкст развітальнай песні; паходзіць з вёскі Клейнікі. Песня гэта з'яўляецца свайго роду запісам правіл і прынцыпаў, якімі павінна кіравацца маладзіца ў чужым доме.

Сідіт (імя маладой) коло стола.
Слёзкі проліває.
А коло ее матуля
Розуму поўчае:
— Ідэш, дітятко,
У чужые людэ.
Будзь пакорненька,
Лягай позненько,
Уставай раненько,
Кланяйся нізэнько.

Можна сказаць, што ў гэтых наказах позняга лягання, ранняга ўставання і нізкіх паклонаў праяўлялася ўся філасофія жыцця маладой жанчыны, якая трапляла ў чужую сям'ю, дзе нярэдка тыранія мужа і свякрухі былі пастаяннымі элементамі штодзённага жыцця.

**А. Баршчэўскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, здарылася гэта паўтара года таму назад. Наша фабрыка святкавала юбілей, і больш прыватную ўрачыстасць мы перанеслі ў Белавежу, дзе было вогнішча, было і што выпіць ды й закусіць. Была і музыка. I ўсе гулялі вельмі весела. Быў там таксама і мой муж, бо мы працуем разам, толькі ў іншых цэхах. I ўсё было б добра, калі б мой муж за гадзіну да канца ўсяго гэтага „балю" не звярнуў увагі на адну з маіх сябровак. Як прыклеіўся да яе, то ўжо да канца і не адклеіўся, забыўшыся пра ўсё на свеце, а пра мяне ў першую чаргу. З нейкім непакоем у сэрцы вярнулася я дахаты. I, на жаль, непакой быў апраўданы. У майго мужыка, саракагадовага „каня", нарадзілася новае каханне. Ён зусім адышоў ад сям'і, прападаў вечарамі, нічога ў хаце яго не цікавіла, нічым не займаўся, ні ў чым не памагаў. З болем мушу сцвердзіць, што перасталі яго цікавіць і нашы цудоўныя дзеткі.

На працягу гэтых паўтара гадоў тая мая сяброўка ўвесь час мне даказвала, што спалучае іх толькі духоўная сувязь, што ў іх ёсць супольнае замілаванне да кніжак, да мастацтва, а па-за працай яны ніколі не сустракаліся і яна б ёй, сваёй сяброўцы, ніколі ў жыцці такой крыўды не зрабіла. Думала яна, што я зараз жа разлўю рот і паверу ёй. Я ж ведала сваё і цярпела пацыху, адна. Высахла я, як шкілет, але што ж мне было рабіць, калі ў мяне дзеці, дом і дурны мужык...

I вось у апошнім часе я пачала заўважаць у мужа нейкія перамены. Ён пачаў у пару вяртацца дахаты, перастаў выходзіць вечарамі, больш увагі прысвячае дзецям. Больш таго, прапануе часамі мне выйсці куды-сьці разам. А тую маю сяброўку-паненку, якой пара б ужо выйсці замуж, я часамі бачу з нейкімі хлопцамі, хаця раней яна ўвесь час круцілася каля той кампаніі, дзе прабываў мой муж.

I цяпер я так сама сабе падумала: а мо і сапраўды прайшло ў яго наступнае каханне... Не першая ж гэта баба ў яго жыцці пасля мяне. Хаця раней гэта адбывалася намнога больш дыскрэтна. А як табе здаецца: ці я ўжо сваю бяду перачакала, ці няшчасце ўжо абмінула маю сям'ю, ці проста яны сталі больш скрытымі і перасталі мазоліць людзям і мне вочы?

**Зіна**

Зіна! З усяго напісанага табой вынікае, што, бадай, ты бяду перачакала. Вытрымала! Бо калі твой муж і раней меў нейкія падобныя гісторыі, то ўжо, бадай, паспела ты і прызвычаіцца да гэтага. I хаця на гэты раз справа, як пішаш, была даволі сур'ёзная, то твой муж ад цябе ўсё ж не адышоў, не кінуў дзяцей і не патрабаваў разводу. Значыць, нешта ёсць пры табе і дзецях трымала, а з гэтага вынікае, што мо і варта было перачакаць.

На шчырасць гэтай тваёй сяброўкі я б занадта не разлічвала, бо жанчына наогул канкурэнтку чуе носам. Твой муж, відаць, чалавек „разрыўковы", любіць скочыць убок, хаця ахвотна вяртаецца дахаты. I ты, калі заўважыла, што нешта ў вас змянілася ў апошні час на лепшае, што стаў вяртацца дахаты, цікавіцца дзецьмі, павінна быць у адносінах да яго вельмі мілай, сімпатычнай, замнога не распытваць і цешыцца, што дзеці маюць бацьку. Ага, і не забудзься пра добрую кухню!

Так што, лічы, на гэты раз няшчасце абмінула тваю сям'ю, але калі ў твайго мужа ёсць ужо такія інклінацыі да дзяўчат, то за будучыню тваю шчаслівую галавы не дам адарэзаць

**Сэрцайка**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### БЕЛАРУСКІ БОРШЧ З ФАСОЛЯЙ I ЯБЛЫКАМІ

На 300 г свіных касцей, 200 г ялавічыны і 60 г сасісак бярэм 1 бурак, 4 бульбіны, 1 моркву, 1 цыбуліну, 2 сталовыя лыжкі фасолі, 1 сталовую лыжку шмальцу, 2 сталовыя лыжкі смятаны, 1 яблык, 2 сталовыя лыжкі памідорнага перацёру, 1 пятрушку, 1 сталовую лыжку 3-працэнтнага воцату, 1 лыжку мукі, цукар, соль.

Зрабіць адвар з ялавічыны і свіных касцей. Асобна зварыць фасолю. Парэзаную саломкай цыбулю, моркву і пятрушку падсмажыць, дадаць да гэтага памідорны перацёр і патрымаць на малым агні яшчэ мінут дзесяць. У звараны адвар палажыць нарэзаную бульбу, а калі суп закіпіць, палажыць пасечаныя звараныя буракі, падсмажаную моркву, пятрушку і цыбулю разам з памідорным перацёрам і мукой (разведзеная раней адварам). На пяць мінут перад заканчэннем варкі палажыць у боршч парэзаныя на кавалкі абабраныя яблыкі і зваранцю фасолю. Дадаць соль, цукар і воцат. Падаваць з кавалкамі мяса і сасіскамі. Забяліць смятанай.

### КАПУСТА З РЫБАЙ

На 700 г кіслай капусты ўзяць 500 г рыбы, 1 цыбуліну, 1 сталовую лыжку мукі, 1 пятрушку, 2 сталовыя лыжкі масла, лаўровы лісток, зеляніну, соль.

Рыбнае філе заліць гарачым рыбным адварам і зварыць. (Рыбны адвар робім з горшых частак рыбы — з галоў, касцей, скуры.) Рыбу выняць, а замест яе ў суп палажыць тушаную капусту, цыбулю і пятрушку. Варыць мінут 20-30. На пяць мінут перад заканчэннем варкі дадаць лаўровы лісток і падсмажаную і разведзеную вадою муку. У гатовую капусту палажыць кавалкі вараной рыбы, пасыпаць зелянінай.

### БУЛЬБА, ТУШАНАЯ З ПЯЧОНКАЙ I САЛАНІНАЙ

На 10 бульбін трэба ўзяць 350 г пячонкі, 200 г саланіны, 1 моркву, 1 цыбуліну, 1 сталовую лыжку памідорнага соусу, 4 сталовыя лыжкі растопленага масла, прыправы, соль.

Бульбу і моркву, нарэзаўшы, падсмажыць на масле. Саланіну і пячонку дробна нарэзаць і падсмажыць разам з пасечанай цыбуляй. Усё перамяшаць, дадаць крыху вады, соль, прыправы і памідорны перацёр. Тушыць на малым агні.

**Гаспадыня**

## СОННІК

49

**Канюшына** — сеяць яе — жыццё на вёсцы; бачыць, як сеюць — удача ў гаспадарцы; цвітучая — вясёлая будучыня; палеткі канюшыны — будучыня з многімі надзеямі; з чатырма лісточкамі — шчасце ва ўсіх справах; вялікая радасць; вялікія грошы.

**Каньяк** піць — каханне без узаемнасці.

**Капальня**, шахта — шчасце і багацце; працаваць у ёй — натужлівая праца; вугальная — багатая жаніцьба (замужжаства).

**Капаць** зямлю — цяжкі занятак.

**Кап'ё** — нянавісць, варожасць.

**Капітан** — доўгае і шчаслівае жыццё.

**Капліца** — радасць і шчырыя прыяцелі.

**Капрал** — паратунак з благога палажэння.

**Капусту** есці — даход; бачыць ядучых — неспадзяванае засмучанне; садзіць — выгаднае жыццё; шаткаваць, крышыць — нуда; варыць — дабрабыт; капуста цвятная (каляфёр) — пашана без матэрыяльнай карысці; есці яе — смутак.

**Капуцын** (манах) — здрада і ашуканства з боку сяброў.

**Капыта** — непаладкі, ашуканства.

**Капэла** — верныя прыяцелі.

**Капюшон** (у плашчы) — не вер кожнаму чалавеку.

**Капялюш** новы і прыгожы — шчасце, значэнне, пашана; стары і падзерты — непрыемнае палажэнне, нястачы, няшчасце; калі сарве яго вецер — страта пэўнага даходу, нявернасць; абноўлены — цябе чакае страта; надзяваць — блізкае падарожжа; згубіць — клопаты, непрыемнасці; падняць — задавальненне.

**Карабін** — цябе абкрадуць; страляць з яго — знойдзеш дапамогу; насіць — закахаешся; куламёт — будуць цябе лаяць.

**Караваншчык**, пастух — хрысціны.



 

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## У ДУБІЧАХ

У адзін з рэдкіх сонечных дзён кастрычніка я наведала школу ў Дубічах Царкоўных. На падворку, разлажыўшы на стале розныя геаметрычныя і геаграфічныя прылады, настаўнік Славамір Кулік вёў з вучнямі ўрок геаграфіі. Зрокі ўсіх былі скіраваны на перспектыву школьнай спартыўнай пляцоўкі і далёкія палі з пералескамі.

Дзеці ўцешыліся нашай сустрэчы і, выкарыстаўшы аказію, запрасілі „Зорку" на заняткі геаграфічнага гуртка, які якраз меў адбыцца ў той дзень адразу пасля заняткаў, а ў плане якога былі дыскусіі аб розніцы ў беларускіх гаворках Беласточчыны.

Цікавая гэта была дыскусія. Дзеці параўноўвалі літаратурную мову з дыялектам у Дубічах, знаходзілі розніцу ў гаворках суседніх вёсак. Пры нагодзе параўноўвалі і народныя вырабы і песні сваёй ваколіцы. На заканчэнне заняткаў пагаварылі і аб нашай газетцы. Тут усе чытаюць „Зорку", бо ўсе да аднаго чалавека ў школе вучацца беларускай мове, вядома, не ўлічваючы першакласнікаў і прадшкольнікаў.

У школе я даведалася, што ўсе школьныя арганізацыі і гурткі вельмі актыўна сёлета пачалі сваю працу. Кіруе ўсімі справамі школьнае самаўпраўленне, якое па чарзе ставіць на школьных апэлях усе актуальныя справы школы. Школьнае самаўпраўленне з першых дзён заняткаў узялося за парадак і дысцыпліну ў школе, арганізавала конкурс чысціні ў класах і ў выглядзе вучняў, а таксама ставіць на апэлях такія пытанні, як культываванне мовы і культуры бацькоў, дапамога старэйшым людзям у вёсцы, удзел у розных гмінных мерапрыемствах.

Сёлета ў школу прыйшла новая настаўніца Ірына Півавар, якая ведае і любіць музыку. Хоць паходзіць яна са Шлёнска, вельмі ж спадабаліся ёй нашыя мясцовыя ды наогул беларускія вельмі меладыйныя песні. Разам з настаўніцамі беларускай мовы настаўніца музыкі плануе ўдзел школы ў конкурсах беларускай песні, а на студзень школьны хор і салісты падрыхтуюць беларускую вечарыну. Вельмі хацела б і я пабываць на ей.

Дырэктар школы Лідзія Саевіч задаволена працай розных гурткоў. Ліга аховы прыроды разам з гарцэрамі адзначыла Міжнародны тыдзень турыстыкі ўдзелам у Белавежскім рэйдзе, а ў школе плануецца імпрэза пад лозунгам „Краявіды" на тэму Беласточчыны.

Дзеці з малодшых класаў пад апекай сваіх настаўнікаў вучацца аказваць сэрца і дапамогу старэйшым людзям у вёсцы — робяць ім пакупкі ў краме, парадкуюць на падворках, а зімой расчышчаюць сцежкі ад снегу.

Гурток беларускай мовы арганізаваў у сваім кабінеце прыгожы этнаграфічны куточак, клас упрыгожыў сценгазеткамі, партрэтамі беларускіх пісьменнікаў і беларускім арнаментам. Прыемна прыходзіць на заняткі ў такі клас.

Побач з беларускім класам ёсць школьная бібліятэка. У ёй нямала і беларускіх кніжак.

Аб мерапрыемствах, якія яшчэ будуць адбывацца ў школе, дзеці абяцалі пісаць у „Зорку".

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара

---

**НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ**

**Міхась Скрыпка**

## ВЫКРУЦІЎСЯ

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

*Убягае ўзрадаваная Лена, кладзе на стол хлеб і пляскае ў далоні.*

Лена. Айну, хлопцы, танцаваць! Танцаваць!

Паўлік. Гэта за што?

Лена. А вось адгадайце!

Раман. Мы не адгадайкі! І нічога ты нам не прынесла.

Лена. А вось жа прынесла! *(Трасе сціснутым кулаком).* І тут столькі радасці, што ахнеце!

Бабка *(ставіць на стол яду).* Ох і сарока ты, Ленка, дай ужо хлопцам перакусіць.

Лена. Добра, добра, хай ядуць, а то ў іх апетыт прападзе.

Раман. А нам і нецікава.

Лена. Нецікава! Ды ты і не здагадаешся, што...

Раман *(перастае есці).* А што?

Лена. А табе ж нецікава.

Паўлік. Ох і нядобрая ты, Ленка. Не для яго, а для мяне скажы сакрэт.

Лена. Добра. Раз так — табе дам адзін білет, а яму...

Раман. Які білет?

Лена. А такі. Во, глянъце, тры білеты на спектакль. Да нас прыехаў тэатр лялек.

Раман і Паўлік. Праўда? І не хлусіш? У наш клуб? Калі, вечарам?

Лена. Каб жа вечарам, а то праз пятнаццаць хвілін. А палове чацвёртай. *(Глядзіць на гадзіннік).* Ой, вой, а што ж гэта такое? Тут яшчэ толькі...

Бабка *(міргае Ленцы. Тая здагадваецца).* Дык жа яшчэ цэлую гадзіну чакаць. *(Хлопцы*

**(Працяг на стар. 10)**

---



**Віктар Швед**

### ЗАБЛУДЗІЛІ ХЛОПЦЫ Ў ЛЕСЕ

Заблудзілі хлопцы ў лесе,
Калі там знайшліся зранку.
Запытаўся Ясь Алеся:
— У якім ідзем напрамку?

— Зразумела, што ў паўднёвым,
Дык дадумацца тут можна.
— На якой гэта аснове?
— Гарачэй нам з крокам
кожным.

### НАВІЧОК

Настаўніца на перапынку
Вядзе размову з навічком.
— Сядзець за партаю
з дзяўчынкай
Хочаш, ці толькі з хлапчуком?

— З кожным сядзець мне тут
пад сілу, —
На гэта вучань адказаў. —
Галоўнае, каб без памылак
і акуратна ён пісаў.

### ТЭЛЕФОН

Мае гаваркі Лявон
На кватэры тэлефон.
І адразу ён, ад сёння,
Да сваіх знаёмых звоніць.
Да сяброўак і сяброў
Пільна звоніць ён дамоў.
Запытаў гарэзу Янку
Пра змест новае чытанкі,
А выдатніцу Людмілу
Ці задачы ўжо рашыла?
Мучыў Колю: — Што ў
праграме
Будзе сёння на экране?
Утаміўся ўрэшце трошкі
І адразу лёг у ложка.
Сварыць Лёню ў школе пані:
— Няма хатняга задання.
Адказаў на гэта ён:
— Вінаваты тэлефон.

### НАШ ДРУГ ЧАТЫРОХНОЖНЫ

Настаўнік кажа: — Можна
Сцвердзіць, што ўжо спрадвеку
Ёсць тут чатырохножны
Прыяцель чалавека.

— Напэўна ўсім вядома, —
Падказвае Сярожа, —
Яго ўсе маем дома,
Гэта наш сябар — ложак.

### КУПІ МНЕ МАЛПКУ, ДЗЕДКА

У дзень святочны дзедка
З унукам сваім, Маркам,
Розных звяроў у клетках
Сустрэлі ў заапарку.

— Купі, дзядуля, звера,
Купі вось малпку тую,
Чытаў я, што ў кватэрах
Іх людзі ўжо гадуюць.

— Ты хочаш забаўляцца,
Рабіць над малпкай здзекі?
— Ды не, ператварацца
Нам будзе ў чалавека.

### НЕ ХОЧУЦЬ МНЕ ДАВАЦЬ ПЯЦЁРАК

— Твой працавіты брат, Ягорка,
Прыносіць нам амаль штодзень
Са школы круглыя пяцёркі,
А ты, Міхась, гультай і лень.

— Ты перастань нарэшце, мама,
Так беспадстаўна наракаць.
І я прыносіў бы таксама,
Каб толькі мне хацелі даць.

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё.

### Я ХАДЖУ ЗАКАХАНЫ
(З рэпертуару „Верасоў")

**Я хаджу закаханы ў твае краявіды
І шапчу, як прызнанне:
— О, мой край дарагі,
Знай, нясу табе ў споведзь
І трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі, і любоў, і грахі.**

**Пасля доўгіх расстанняў
І далёкіх вандровак,
Я на векі вярнуўся
Ў засень клёнаў тваіх.
Толькі з роднага дому,
Толькі ў роднай дубраве
Як не дрэвам, хоць кветкай
Прарасту для жывых.**

**Я хаджу закаханы ў твае краявіды
І шапчу, як прызнанне:
— О, мой край дарагі,
Толькі з роднага дому,
Толькі ў роднай дубраве
Як не дрэвам, хоць кветкай
Прарасту для жывых.**

### ДАКЛАДНЫ НАПРАМАК

Сустрэліся двое паляўнічых, ды адзін да другога:

— Ну, што ўпаляваў?

— Ды нічога, як бачыш.

— Я таксама, як бачыш...

— Ну, то гайда на балота, хоць нейкага кuліка ўпалюем.

— А дарогу туды ведаеш?

— А мы зараз распытаем... Эй, цётка, як нам да балота трапіць?

— Вось пойдзеце гэтай сцежкай да сяла, а там крама, а ад яе...

— Годзе, годзе! Нам абы толькі да крамы дабрацца, а да балота трапім.



Такое спартыўнае жыццё...





### У ТЭАТРЫ

— Скажыце, калі ласка, я магу атрымаць два білеты ў першым радзе? — звяртаецца задрыпанец да тэатральнага касіра.

— Можаце.

— А ў ложу?

— Ёсць і туды.

— Ну, а два месцы на балконе?

— Таксама ёсць. Возьмеце на балкон?

— Не, дзякую. Відаць, спектакль вельмі нудны, калі столькі свабодных месц.

### У ЗААПАРКУ

Выхаванцы дзіцячага сада прыйшлі ў заапарк. Ля клеткі з кенгуру выхавацелька ім тлумачыць:

— А гэта жыхары Аўстраліі...

— Так?! — здзіўляецца маленькі Францішак. — За аднаго з іх мая сястра нядаўна выйшла замуж...

### СВАРКА

— Ты, аказваецца, эгаіст. Мая жонка, мая кватэра, мая зарплата. Маё, маё... Няма нічога тваіго. Ёсць толькі наша. Ты запамятаў? Дарэчы, што гэта ты там шукаеш у шафе?

— Нашы штаны, — адказаў муж.

### СПАЧУВАННЕ

— Я чуў, ты больш не служыш Бахусу?

— Не магу. Хопіць перакуліць адну чарку — і адразу з носа цячэ кроў.

— Спачуваю. У мяне таксама агрэсіўная жонка.





Не будзіце маё сумленне, бо яно можа ўстаць не на тую нагу

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Жонка гаворыць мужу, стоячы перад вітрынай магазіна:

— Як бы мне хацелася мецъ футра!

— Ну што ты, дарагая! Як табе ў галаву магло прыйсці такое! Няўжо ў век касмічных караблёў ты хочаш прыпадобніцца да першабытнага чалавека і хадзіць, укруціўшыся ў звярыныя скуры?!

*

— Вы ўжо чулі, што Енсены з-за грабежнікаў усю ноч не гасяць святла ў вілі?

— Дзіўныя людзі! У грабежнікаў заўсёды пры сабе ліхтарыкі...

*

— Мой кліент хварэе раздваеннем асобы, і таму я прашу вас быць да яго паблажлівым, пане суддзя.

— Добра, я ўлічу гэта. Я думаю даць яму па пяць год на кожную палавіну.

### НЯЎДАЛЫ ДЗЕНЬ

**У начальніка Дзяўбалы
сёння дзень зусім няўдалы:
у турботах
і клапотах
працягу ён неўпрыкмет.
І не змог Дзяўбала нават
выклікаць у кабінет:
ні галоўнага,
ні нама,
каб як след ім наківаць,
з інжынера „стружку зняць!...
Нават смешна: сакратарку
белабрысую Адарку
за нядбайнасць не „разнёс",
не давёў яе да слёз...
Ноч не будзе спаць Дзяўбала —
дзень пражыў ён так няўдала.**

**Хведар Жычка**

### З „Весніка Задрыпоніі"

### З БЛАКНОТА АРНІТОЛАГА

Звыш 2,5 тысяч пералётных птушак засталіся на зімоўку навокал толькі што пабудаванага 14-павярховага жылога дома на Лясной вуліцы г. Ачуцінава.

Вучоныя тлумачаць гэты цікавы факт памылкай будаўнікоў, якія навесілі абагравальныя батарэі не на ўнутраных, а на знадворных паверхнях сцен новага дому.





З суседскага агародчыка.





## Курʼёзы

### ЦУДЫ РЭКЛАМЫ

У фармаванні густу ды ўпадабанняў на Захадзе сур'ёзную ролю адыгрывае рэклама. Задурманелы ёю пакупнік кідаецца і на тавар, ад якога карысць бывае толькі тым, хто гэты тавар збывае.

Каб адвучыць людзей бязмежна ўспрымаць на веру змешчаныя ў прэсе рэкламныя аб'явы, нарвежскі камітэт аховы пакупнікоў ад шахраяў змясціў у газетах такую абвестку: „Лурыум 30 ікс, цудоўныя амерыканскія лекі. Вяртаюць лысым валасы, вылечваюць большасць хвароб і змяншаюць страты вашым аўтамабілям бензіну на 15-20 працэнтаў".

Хоць у гэтай аб'яве была яшчэ і засцярога — не верыць усялякім шахраям, тры ста асоб выявілі жаданне неадкладна купіць гэтыя „цудоўныя лекі".

### З КНІГІ ГІНЕСА

Швейцарац Агюстэн Фурнье амаль голы лёг на забітыя ў сані цвікі і з'ехаў на іх з крутой гары, а канадская жанчына Элен Кары прасядзела з кіслародным апаратам у рэзервуары з вадой 68 гадзін.



**Калі нехта зразумеў, што ён нічога не разумее ў жыцці, значыць, ён ужо ў ім разабраўся.**